*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 7(115) ◈ 17 лютага 1993 г. ◈ Кошт — па дамоўленасці. (Па падпісцы — 80 кап.)

## ПОСТУП ТЫДНЯ



***У МАСКВЕ ПРАЙШЛА ПЕРШАЯ НАРАДА АРГКАМІТЭТА МІЖДЗЯРЖАЎНАЙ ТЭЛЕРАДЫЕКАМПАНІІ,** у якой удзельнічалі прадстаўнікі краін СНД. Беларусь і Малдова адмовіліся падпісваць дакумент нарады. Да спрэчных пытанняў аргкамітэт МТРК вырашыў вярнуцца ў сакавіку.*

●

***У МЕНСКУ ПРАХОДЗІЦЬ УНІВЕРСАЛЬНАЯ ЯРМАРКА МАЛОГА І СЯРЭДНЯГА БІЗНЕСУ «1000 ДРОБЯЗЕЙ».** У ёй удзельнічаюць звыш 260 кааператываў, малых прадпрыемстваў, навукова-вытворчых аб'яднанняў усіх форм уласнасці. На ярмарцы прадстаўлена прадукцыя Беларусі, Украіны, Прыбалтыкі, Малдовы і Расіі.*

### УВАЗЕ КІРАЎНІКОЎ І ЎЛАДАЛЬНІКАЎ УСІХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ, ФІРМАЎ ДЫ АРГАНІЗАЦЫЯЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

25 сакавіка гэтага года спаўняецца 75 гадоў з дня абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Гістарычнае значэнне тае падзеі немагчыма перабольшыць: нават тады, у ваенны час, шэраг дзяржаў прызналі БНР. Тагачаснае абвяшчэнне самастойнай рэспублікі, ідэі і дакументы, якія суправаджалі гэтую падзею, выключна важныя і для сённяшняе нашай дзяржаўнасці: яны знайшлі адлюстраванне ў праекце новай Канстытуцыі Беларусі.

Для шырокага святкавання гадавіны гэтае падзеі нядаўна дэмакратычнымі грамадскімі арганізацыямі і рухамі рэспублікі быў створаны арганізацыйны камітэт, якім запланаваны шэраг святочных мерапрыемстваў як масавага, так і навукова-культуралагічнага характару, разлічаных на міжнародны рэзананс. Аргкамітэт звяртаецца да Вас і ў Вашай асобе да Вашага прадпрыемства ці арганізацыі з просьбай дапамагчы сродкамі або матэрыяльна-тэхнічна ў святкаванні 75-годдзя БНР. Са свайго боку абяцаем арганізаваць у час святкавання адпаведную рэкламу Вашаму прадпрыемству і Вашай прадукцыі.

Сродкі трэба пералічваць на разліковы рахунак гарадской рады ТБМ № 700733 у Ленінскім аддзяленні Белбізнесбанка г. Мінска з прыпіскаю «На святкаванне 75-ай гадавіны БНР». Кантактны тэл. 36-09-09.

*АРГКАМІТЭТ.*

**ТРЫ ДНІ ПРАЦАВАЛА ПЕРШАЯ ЎСЕБЕЛАРУСКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ ГІСТОРЫКАЎ** «Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь: новыя канцэпцыі і новыя падыходы». Галоўным вынікам форуму стала стварэнне асацыяцыі гісторыкаў Беларусі.

●

**З АДНАДЗЕННЫМ ВІЗІТАМ НАВЕДАЎ МАЛДОВУ НАМЕСНІК СТАРШЫНІ САВЕТА МІНІСТРАЎ РБ АЛЯКСАНДР БОКАЧ.** Разгледжаны пытанні аб узаемных пастаўках тавараў і сыравіны ў 1993 годзе.




**На здымку:** рэпрадукцыя карціны Вячкі Целеша «Нацыянальны нігілізм».

Нататкі з выставы мастака «На Даўгаве маю гонар···» чытайце на *стар. 7.*

## Быць «добрым», каб не аказацца лішнім?

Стар. 3 ●●●

## Да 130-годдзя паўстання Каліноўскага

Маладзечанскае аддзяленне ТБМ імя Францішка Скарыны і Маладзечанскі гарадскі выканаўчы камітэт Савета народных дэпутатаў распаўсюдзіў заяву да жыхароў Маладзечаншчыны і ўсёй Беларусі, у якой гаворыцца, што сёлета ў лютым спаўняецца 130 гадоў, калі наш народ пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага ўзняўся на барацьбу за аднаўленне незалежнасці нашага краю.

Неўміручай славай разам з іншымі сынамі нашай Бацькаўшчыны пакрылі сябе і нашы землякі-маладзечанцы. Нізка схіляючы галаву перад памяццю нашых слаўных продкаў, іх адвагай і мужнасцю, высока трымаючы святы бел-чырвона-белы сцяг, мы заклікаем аддаць даніну гонару і павагі Беларусі, ушанаваўшы яе сыноў, якія аддалі і аддаюць за яе свае жыцці і працу, усё самае лепшае, што ёсць у чалавека і грамадзяніна.

Мы прапануем абвясціць апошнюю суботу лютага Днём мужнасці. Заклікаем народных дэпутатаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў, прадстаўнікоў патрыятычных партый і рухаў падтрымаць нашы намаганні ў гэтай добрай і пачэснай справе.

## ●●● Вучаць... нелюбові да Айчыны ●●●

***Шматгадовая антынародная палітыка ўціску і застрашвання ўсяго беларускага прыносіць сёння свой ганебны плён. Таму такневерагодна цяжка бывае прабудзіць у людзей духоўна зламаных пачуццё асабістай годнасці, элементарнай цывілізаванасці, натуральнага імкнення процістаяць нялюдскаму імперскаму гвалту.***

Вось і апошні палітычны выбрык расійскіх шавіністаў, якія атабарыліся ў нашым старажытным Віцебску, прымушае да адпору. Дзякаваць Богу, не мяне аднаго. З радасцю прачытаў «Заяву Віцебскай гарадской рады ТБМ», дзе рашуча асуджаецца разбуральная дзейнасць імперскіх суполак. Салідарна прымаю патрыятычныя погляды і сведчанні глускага настаўніка Васіля Лаўрыновіча.

Але звернемся да таго, што адбываецца на Прыдзвінні. Маскоўская камуністычная газета «Праўда» надрукавала правакацыйны ліст з подпісамі студэнтаў і выкладчыкаў Віцебскага педінстытута, дзе яны прызнаюцца ў нелюбові да сваёй Айчыны — Беларусі і прыніжана просяцца ў падданства да суседняй дзяржавы — Расіі. Нармальнаму чалавеку такое цяжка ўявіць. Выракацца Бацькаўшчыны — гэта нечуваная ганьба, гэта справа падонкаў. Так прынята думаць ва ўсім свеце. Ва ўсім, але не ў Віцебскім педінстытуце, дзе рыхтуюць настаўнікаў і дзе ёсць нахабныя спробы прышчэпліваць беларускай моладзі ідэалогію перабежчыкаў. Самае цікавае і недаступнае розуму тое, што такой «педагогікай» займаюцца выкладчыкі дзяржаўнай вышэйшай навучальнай установы, якія атрымліваюць зарплату ад урада Рэспублікі Беларусь! Мая паездка ў Віцебск і нават кароткае знаёмства з палітычнай сітуацыяй не пакінулі сумненняў у наяўнасці інспіраванай дзейнасці пэўнай суполкі з шавіністычнай расійскай арыентацыяй. Мяркуючы паводле іхніх друкаваных выказванняў, «імперцы» не вылучаюцца адукаванасцю, яны «самадзейнікі» і, падобна папугаям, бясконца паўтараюць вялікадзяржаўныя формулы, вынайдзеныя ў асяроддзі спадара Жырыноўскага. Галоўная мэта, як няцяжка здагадацца,— пасварыць беларусаў паміж сабой, дэстабілізаваць або разбурыць намаганні патрыятычных сіл у адраджэнні незалежнай беларускай дзяржавы. Сродкі, ужываныя імі,— гэта дэструктыўная прапаганда, бязглуздая і непісьменная. Але ваяўнічая і нахабная. Пры нашай пасіўнасці гэта можа стаць небяспечным. Таксама відаць, што асяроддзем сваёй антыбеларускай палітычнай дзейнасці «імпер-

*(Працяг на с. 2).*

*На ажыццяўленне праекта захавання экалагічна чыстых элітных парод дрэў у Белавежскай пушчы Сусветны банк выдзеліў адзін мільён долараў ЗША.*

◆

*На фабрыцы каляровага друку выдадзены каляндар на 1993 год, прысвечаны 75-ым угодкам абвяшчэння БНР.*

*ДА ВЕДАМА* ◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆

# Чацвёрты год — як прыняты Закон аб мовах

**На 1 студзеня 1993 года ў Беларусі зарэгістравана 627 друкаваных юрыдычных выданняў. З іх на беларускай мове — 140, на беларускай і рускай мовах — 116.**

**У Беларусі 4953 школы, з іх 3141 цалкам беларускія (63,4 працэнта), 1415 школ з дзвюма мовамі навучання (28,6 працэнта) і 397 рускіх школ.**

# Дзе гэта вуліца, дзе гэты дом...

**Камісія па назвах і перайменаванні вуліц і плошчаў Менскага гарвыканкама разгледзела пытанне аб прысваенні новых назваў вуліцам, што знаходзяцца побач з плошчай Незалежнасці. Камісія вырашыла перайменаваць вуліцу Свярдлова ў вуліцу Вацлава Ластоўскага, вуліцу Мяснікова — у вуліцу князя Глеба Менскага, вуліцу Берсана — у вуліцу Адама Станкевіча. У хуткім часе памяняюць свае назвы вуліцы Валадарскага, Урыцкага, Савецкая, Камсамольская і Інтэрнацыянальная.**

# Вучаць... нелюбові да Айчыны

*(Працяг. Пачатак на с . 1).*

цы» выбралі навучальныя ўстановы: педагагічны, медыцынскі і ветэрынарны інстытуты. Выбар невыпадковы. Як і заўсёды, ворагі нашай свабоды імкнуцца найперш абезгаловіць народ праз адсячэнне ад яго інтэлігенцыі. Раблю дапушчэнне, што галавешкі вялікадзяржаўнага шавінізму былі закінутыя ў віцебскія навучальныя ўстановы здаўна. Яны падпольна тлелі там, спарадычна нагадваючы пра сябе. Некаторыя менскія інтэлігенты яшчэ памятаюць, напэўна, пра скандальную дысертацыю віцебскага «ветэрынара-марксіста» Зямляннікава напрыканцы 60-ых гадоў, дзе «навукова» даводзілася неабходнасць «слияния» беларускай і расійскай нацый. Прафанацыя гістарычных фактаў Зямляннікавым была настолькі відавочнай, што нават Лаўрэнці Абэцэдарскі, які прысутнічаў на абароне дысертацыі, весела рагатаў.

Сёння наступілі такія часы, калі пра гісторыю пішуць усе, апрача гісторыкаў. Мусіць, ангажыраваныя гісторыкі адчуваюць за сабой нейкі комплекс вінаватасці і таму змоўклі... Напэўна, часова. На жаль, не чутна галасоў маладога пакалення прадстаўнікоў гістарычнай навукі. Я разважаю пра гэта зусім не рытарычна. У тым жа віцебскім інстытуце ашываецца самадзейны герадот, або, як ён сам сябе называе, «русский офицер», адстаўнік Ю. Пазднякоў. Я сустрэў яго ў кабінеце кафедры філасофіі. Пагутарылі, і мне стала вельмі сумна, што невукі, на жаль, уплываюць на грамадскую думку некаторых віцябчан. А дзе ваша пазіцыя, шаноўныя выкладчыкі беларускай гісторыі з Віцебскага педагагічнага інстытута? Няўжо незразумела, што калі вы не навучыце патрыятычнаму разуменню айчыннай гісторыі вашых студэнтаў, то яны трапяць у расстаўленыя палітычныя петлі розных авантурыстаў. На карысць такога меркавання якраз і сведчыць ганебная акцыя падпісантаў, здзейсненая ў гэтай навучальнай установе. Расхрыстаныя шапікі і кнігарні сёння завалены завознай вялікадзяржаўнай чытанінай з Расіі. Розныя там «Соборы» і «Белые России» настырна папулярызуюць новых прагавітых «вождей» тыпу Ільіна. Выдадзены ў 1992 годзе чорны том апошняга аўтара ёсць падставы разглядаць, як катэхізіс расійскага нацыяналізму, як праграму і настаўленне да дзеяння. Красамоўная і сама назва гэтага своеасаблівага «кароткага курсу»: «Наши задачи».

Што ж тады здзіўляцца, калі сярод выкладчыкаў пединстытута раптам знаходзяцца беларусы, задурманеныя замежнай прапагандай? Яны, натуральна, пачынаюць збіраць сярод студэнтаў подпісы за наданне расійскай мове статуса дзяржаўнай. Я маю на ўвазе перш за ўсё дацэнта кафедры філасофіі Уладзіміра Уткевіча. Я меў доўгую размову са спадаром Уткевічам і змог пераканацца, што ён чалавек эмацыянальны, схільны да захаплення, трапіў пад уплыў імперскай ідэалогіі, што шырока рассяваецца ў Беларусі. Гэтаму спрыяе фактычнае патуранне з боку камуністаў. Падбухторніцкая дзейнасць такіх палітычных арганізацый, як «Дума славянского собора «Белая Русь», газеты «Славянские ведомости», віцебскага выдання «Русь Белая», безумоўна накіраваная на выхаванне сярод беларусаў нелаяльнасці да сваёй нацыянальнай дзяржавы. Друкаваная тысячным тыражом «Русь Белая», закамуфляваная пад «газету славянофилов», па-экстрэмісцку зласліва нацкоўвае віцебскіх чытачоў супраць вядомага сваім памяркоўным курсам Станіслава Шушкевіча. Вось узорчык гэтай, з дазволу сказаць, журналістыкі: «...определив с большевистской решительностью врагов белорусского языка и, следовательно, врагов народа, спикер белорусского парламента С. Шушкевич вступил на опасную стезю дестабилизации национального согласия в республике, на «тропу войны» с собственным народом». Хоць стой, хоць падай пасля такіх пасажаў.

***Удзельнікі рэспубліканскай студэнцкай канферэнцыі выказваюць рашучы пратэст супраць дзеянняў групы выкладчыкаў Віцебскага педагагічнага інстытута, якія выкарысталі сваё службовае становішча для правакацыйнай антыбеларускай акцыі. Аказаўшы маральна-псіхалагічны ўціск, яны фактычна прымусам дамагліся ад студэнтаў подпісаў пад ганебным антынацыянальным лістом. Удзельнікі канферэнцыі лічаць: арганізатары ганебнай акцыі не маюць маральнага права выкладаць і навучаць студэнтаў у вышэйшых навучальных установах Беларусі.***

**Ад імя ўдзельнікаў канферэнцыі — П. ЗНАВЕЦ (старшыня прэзідыума), І. ШУЛЬЖЭНКА (сакратар), М. УРБАНОВІЧ (сябра прэзідыума).**

Добра, што ў Віцебску ёсць сапраўдныя, шчырыя людзі і патрыёты, якія не кінуць Бацькаўшчыну ў цяжкія часы. Думаю, ёсць яны і сярод педагогаў пединстытута на кафедрах беларускай мовы і літаратуры, гісторыі ды іншых. У пэўнай ступені такія спадзяванні пакінулі ў мяне гутаркі з дацэнтамі Анатолем Емяльянавым, Віктарам Акуневічам. Праўда, вельмі неабходна, і пра гэта я казаў выкладчыкам, каб ад проста акадэмічнага выкладання ўзняцца на больш высокі ўзровень, калі звычайная лекцыя становіцца шчырай і палымянай пропаведдзю беларускага Адраджэння. Гэтага патрабуе сумленне. Гэтага патрабуе гістарычны час, які не даруе нам грэшнай млявасці.

Але нават калі нехта лічыць за лепшае для сябе нейтральна выкладаць свой прадмет, што ж, і гэта куды прыстойней, чым рабіць уціск на залежных студэнтаў і практычна вымагаць у іх подпісы пад адозвамі палітычнага зместу. Вось так раней бальшавіцкія камісары рабілі людзей саўдзельнікамі сваіх палітычных злачынстваў, ламалі маладыя лёсы, прывівалі двурушніцтва і «саўковасць». У Віцебскім пединстытуце такая практыка, аказваецца, жыве і цяпер. І ніхто не спыніў гэтых людзей, не сказаў ім у вочы: «Ды што ж гэта вы робіце, прафесары? Нашто калечыце маладыя душы?»

Што да пазіцыі рэктара В. Вінаградава, выказанай падчас інтэрв'ю газеце «Выбар» наконт боязі «перагібаў» і мажлівай неапраўданай паспешлівасці ў гэтай важнай справе, то яна здаецца дзіўнай. Спадар рэктар абавязаны быў, як нам здаецца, усё ж перасцерагчы педагогаў, што, па меншай меры, непрыгожа займацца палітычным вымагальніцтвам у студэнцкім асяроддзі. Ну, а як можна закрываць вочы на падбухторванне да дзейнасці супраць суверэнітэту дзяржавы ў сценах дзяржаўнай установы, якая гэтых выкладчыкаў прыняла на працу і корміць?

**З ДЫКТАФОНУ УЛАДЗІМІР УТКЕВІЧ:**

***«Почему у меня русский менталитет — я не знаю. От рождения, от генов, от воспитания — я не знаю. Тут есть масса теорий... Кем бы я был по менталитету, если б читал другие книги, я не знаю, но я воспитан на Ильине, воспитан на Достоевском, я воспитан на Солоневиче. Дальше... я воспитан на Иоанне Кронштадтском, вот на таких вещах...»***

**Лявон ЛІПЕНЬ,**
**спец. карэспандэнт**
**«Нашага слова».**
г. Віцебск.

◆ **У суполках ТБМ: насустрач з'езду**

## Светлагорск

**На сумесным пасяджэнні Светлагорскай рады ТБМ і камісіі гарадскога Савета народных дэпутатаў па адукацыі і культуры быў створаны каардынацыйны савет па выкананні праграмы «Родная мова». Былі ўтвораны камісіі: тапанімічная, арганізацыйна-прапагандысцкая, моўна-адукацыйная, краязнаўчая, камісія па афармленні моўнага навакольнага асяроддзя.**

**У 1992 годзе былі наладжаны курсы па ўдасканаленні ведання беларускай мовы для супрацоўнікаў гарадскіх бібліятэк і для супрацоўнікаў выканкама гарсавета, яго аддзелаў і службаў. Разам з мясцовай радай БНФ раённая рада ТБМ правяла мітынг, устанавіла памятны крыж на месцы будучага помніка ахвярам сталінскіх рэпрэсій у Шацілках. Газета «Светлагорскія навіны» рэгулярна змяшчае тэматычныя старонкі «Роднае слова» і «Дрыгавічы».**

Старшыня Светлагорскай рады
**ТБМ І. КАТЛЯРОЎ.**

◆

## Маларыта

**Маларыцкі райвыканкам паведамляе, што ў раёне адсутнічае ТБМ імя Ф. Скарыны. Але ў раёне шмат зроблена па выкананні Закона аб мовах. З гэтага навучальнага года ўсе першыя класы пераведзены на навучанне па беларускай праграме, большасць школ беларускамоўныя, ва ўсіх дашкольных установах сяла ў старэйшых групах горада выхаванне вядзецца па беларускай праграме.**

Старшыня раённага Савета народных дэпутатаў
С. ГЕРАСІМУК.

◆

## Чавусы

**У Чавусах раённая рада ТБМ зарэгістравана 11 ліпеня 1990 года. Зараз у раёне створана і працуе 25 суполак, у якія ўваходзіць 130 чалавек. Газету «Наша слова» выпісваюць 20 чалавек.**

Нам. старшыні райвыканкама
**Л. ЯФІМЧЫКАЎ.**

◆

## Слуцк

**У склад раённага аддзялення ТБМ уваходзяць першасныя суполкі, якія створаны ва ўсіх сярэдніх і няпоўных сярэдніх школах (36), а таксама ў дзіцячых садках раёна (15). Распрацаваны раённыя праграмы «Родная мова» і «Спадчына». Пераведзены на беларускую мову навучання і выхавання 4 няпоўныя сярэднія і 2 пачатковыя школы, такім чынам, усе школы, а таксама дзіцячыя садкі раёна з'яўляюцца беларускамоўнымі.**

**У раёне выпісана 53 экз. газеты «Наша слова». Сярод падпісчыкаў усе сярэднія школы Слуцкага раёна і РАА (24 экз.).**

Першы нам. старшыні выканкама
**П. ДАЎГУЧЫЦ.**

*• З рэдакцыйнай пошты •*

# Называецца, паразумеліся з міністрам

Больш года назад клуб «Спадчына» сабраў грошы на помнік Максіму Багдановічу ў Яраслаўлі. Фундатарамі былі многія грамадзяне, арганізацыі і ўстановы Беларусі. Скульптар Сяргей Вакар бясплатна перадаў клубу зроблены ім помнік паэта з гіпсу. У чэрвені 1992 г. помнік зрабілі з медзі. Архітэктарам Карпуком на папярэдняй дамоўленасці з Яраслаўскім гарвыканкамам у час святкавання ў Яраслаўлі сотых угодкаў беларускага паэта быў зроблены архітэктурны праект і макет з прывязкай на мясцовасці — помнік вырашана было ўстанавіць каля галоўнага корпуса Яраслаўскага універсітэта.

Калі дадаць, што праект разгледжаны і ўхвалены на камісіі Міністэрства культуры і архітэктурнага ўпраўлення, то заставалася дробязь: атрымаць афіцыйны дазвол ад Яраслаўскага гарвыканкама на ўстаноўку помніка і ўзгадніць з ім усе праектныя задачы. І вось тут пачала праяўляць сябе застарэлая чыноўніцкая хвароба — зацягванне справы, нежаданне лішняга клопату. Былі 6 месяцаў пастаянных напамінаў. Нарэшце я не выцерпеў і сказаў пра гэта з трыбуны Першага сходу беларусаў бліжняга замежжа. І замест таго каб канструктыўна аднесціся да крытыкі, міністр культуры Беларусі пакрыўдзіўся. І абвінаваціў мяне ў амбіцыёзнасці. А калі я, наведаўшыся ў Міністэрства, папрасіў Яўгена Канстанцінавіча Вайтовіча прыняць мяне толькі на хвіліну, каб усё ж знайсці паразуменне дзеля справы, той з пагардай і дакорам сказаў: «После того как вы выступили с упрёками против меня, я с вами никаких дел не хочу иметь». Я здзівіўся і кажу: «А чаго гэта Вы са мною пачалі гаварыць на расійскай мове, я ж з Вамі гавару на беларускай?» А ён у адказ: «Какую мову хочу, такую и употребляю с вами».

Паразумеліся, што называецца, з міністрам. Вось я і думаю: для таго каб пераканацца, як нашы некаторыя ўрадавыя чыноўнікі ставяцца ў сапраўднасці да беларускасці, іх трэба, аказваецца, раззлаваць. Тады і прарываецца тое патаемнае, што яны ў спакойных умовах стараюцца маскіраваць.

**Анатоль БЕЛЫ,**
**сябра ТБМ, старшыня клуба**
**«Спадчына».**

# БЫЦЬ «ДОБРЫМ», КАБ НЕ АКАЗАЦЦА ЛІШНІМ?

Аўтар гэтых радкоў з'яўляецца членам Камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах, якую ўзначальвае паважаны М. Слямнёў, які апублікаваў у «Звяздзе» запар два палемічныя артыкулы на тэму «адраджэння нацыянальных супольнасцей» Беларусі. Апошні з іх пад назваю «Добрая маці любіць усіх сваіх дзяцей аднолькава» з'явіўся 23 студзеня г. г. З некаторымі палажэннямі мне цяжка пагадзіцца як калегу сп. Слямнёва і як грамадзяніну Беларусі, а некаторыя з іх, накшталт «залішняй экзальтацыі нацыянальных пачуццяў», якая нібыта мае месца ў рэспубліцы ў сувязі з актывізацыяй у апошнія гады працэсаў адраджэння Бацькаўшчыны, трэба цалкам пакінуць на сумленні аўтара.

У згаданых артыкулах сп. Слямнёў пранікнёна распавядае пра «адраджэнне малых нацыянальных супольнасцей» Беларусі. Але хіба хтосьці ў Беларусі чыніў гвалт, напрыклад аб'яўляў «ворагамі народа» і накіроўваў у выгнанне якуюсьці нацыянальную групу насельніцтва рэспублікі, як гэта мела месца з крымскімі татарамі альбо туркамі-месхецінцамі? Калі ж гаворка ідзе пра развіццё культуры і пашырэнне мовы нацыянальных меншасцей Беларусі, то нагадаем, што ў Законе «Аб нацыянальных меншасцях у Рэспубліцы Беларусь», падрыхтаваным Камісіяй, якую ўзначальвае сп. Слямнёў, а таксама ў многіх іншых заканадаўчых актах гэтыя пытанні цалкам урэгуляваны. Няўжо незразумела, што тэрмін «адраджэнне» можа дастасоўвацца менавіта да Беларусі і беларускага народа, мова і культура якога аказаліся на мяжы знікнення, і не дзе-небудзь, а на Бацькаўшчыне. Гэта, калі не весці гаворку пра адраджэнне Польшчы і польскай мовы сіламі польскай нацменшасці ў Беларусі альбо Расіі і расійскай мовы грамадзянамі рэспублікі рускай нацыянальнасці. Аднак гэта ўжо іншая тэма. Больш таго, хіба не ведае паважаны М. Слямнёў пра пануючую ў асяроддзі «адраджэнцаў Вялікай Расіі», якіх ёсць нямала і ў Беларусі, іншую думку? Нават у друку яна адзначаецца даволі часта. Як, напрыклад, яскрава выказалася кандыдат гістарычных навук Т. Габелева на старонках «Белорусской нивы» (1992, № 140): «...русское население Белоруссии нельзя относить к национальным меньшинствам».

Аднак паважаны калега лічыць, што «рускія людзі, у тым ліку і на Беларусі, падвяргаліся... асіміляцыі» (?!) Запытаем у шаноўнага аўтара, чаму ў пацвярджэнне гэтай думкі прыводзіцца тое, што ў Беларусі разбураліся праваслаўныя цэрквы? Можа, назва «Русская православная церковь», філіяй якой з'яўляецца Беларускі экзархат, пераканала сп. Слямнёва ў тым, што ўсе вернікі «ўсходняга» абраду ў рэспубліцы па сваёй прыналежнасці рускія?

Цяжка пагадзіцца з тым, што ўсе народы былога СССР, у тым ліку рускія, «не ўсведамлялі сябе часцінкамі адпаведных этнасаў. Яны былі як бы размытымі ў этнічнай (?!) прасторы». Тое, што многія высокакультурныя прадстаўнікі рускага народа, як Я. Замоцін, У. Пічэта ды і — што далёка хадзіць — некаторыя нашы калегі-дэпутаты, жывучы ў Беларусі, авалодалі беларускай мовай, не азначае забыццё імі рускай. Мільёны рускіх у Беларусі, як бачым, не сталі «як бы размытымі ў этнічнай прасторы». Большасць школ, сродкаў масавай інфармацыі, дзяржаўных устаноў і г. д., нягледзячы на дзяржаўны статус беларускай мовы, да гэтага часу працуе ў рэспубліцы на рускай мове.

Што да нацыянальных меншасцей і ўмоў іх грамадска-культурнага жыцця ў Беларусі, то азнаёмімся з вынікамі перапісу насельніцтва 1989 г. На сто тысяч грамадзян кожнай нацыянальнай супольнасці рэспублікі налічваецца дактароў навук адпаведна: беларусаў — 6, рускіх — 33, іншых — 34. Тое ж у дачыненні да кандыдатаў навук: беларусаў — 93, рускіх — 398, іншых — 296. Доля працуючых у органах дзяржаўнага кіравання склала адпаведна ад колькасці працаздольных з ліку нацыянальных супольнасцей: беларусаў — 3,3, рускіх — 7,8, іншых — 8,2 працэнта. Хіба не сведчаць гэтыя лічбы, што менавіта беларусы аказаліся на сваёй Бацькаўшчыне прыніжанай нацыянальнай меншасцю? Праўда, на думку М. Слямнёва, гаварыць так — «гэта ўжо яўна перабор». Затое беларусаў шаноўны калега перасцерагае, як ужо адзначалася, ад «залішняй экзальтацыі нацыянальных пачуццяў» (у чым, аднак, яна праяўляецца?!) і раіць, каб любоў да Бацькаўшчыны была «ціхай, негаманлівай». Шчыра дзякуем!

Нямала думак, ад якіх часам становіцца ніякавата, навейваюць артыкулы М. Слямнёва. Доктар філасофскіх навук сцвярджае, што, нягледзячы на палітыку «зліцця нацый», якая праводзілася ў краіне, «існаваў дазвол» на «ўсебаковае развіццё» кожнай з іх. Што «рэспублікам давалася пэўнае права ўносіць у яе (нацыянальную палітыку — *заўвага мая, Я. Ц.)* адпаведныя карэктывы, напаўняць нацыянальнай спецыфікай». Хіба можа гэта пацвердзіць багіня Кліо?

У пасляваенныя гады адбылася амаль поўная замена дзяржаўных і партыйных кіраўнікоў рэспублікі — ураджэнцаў Беларусі на выхадцаў з расійскай глыбінкі. Перад гэтым была знішчана беларуская нацыянальная інтэлігенцыя. Пераводзіліся ў Беларусь многія выкладчыкі ВНУ з іншых краёў, у выніку чаго беларусы цяпер складаюць меншасць выкладчыцкага корпуса вышэйшай школы рэспублікі. У 60—70-ыя гады па школах прайшоў «смерч» хрушчоўска-брэжнеўскага эксперыменту масавага «зліцця» народаў і моў. Не кажыце, сп. Слямнёў, што «Масква дзівілася», калі «свае энтузіясты... па лютай барацьбе з рэлігіяй і нацыянальнай культурай наогул» перагіналі палку. Масква пляскала ў ладкі! А яшчэ мацней — мясцовыя прыхільнікі «адзінага і непадзельнага» саюза!

На жаль, не ўсе «лідэры нацыянальных таварыстваў», пра частыя сустрэчы з якімі гаворыць М. Слямнёў, паводзяць сябе па-таварыску ў дачыненні да беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Больш таго, успомнім, што нават у выступленні на сесіі Вярхоўнага Савета старшыні КДБ рэспублікі Э. Шыркоўскага ясна адзначана на падставе фактаў: некаторыя актывісты культурна-асветных нацыянальных таварыстваў займаюцца далёка не культурна-асветніцкай дзейнасцю. Усяляк імкнуцца давесці грамадзянам шэрагу рэгіёнаў Беларусі — пакуль што на «ідэйным» узроўні,— што тыя ці іншыя яе абшары па гісторыка-этнічных і моўна-культурных паказчыках не маюць дачынення да рэспублікі. Дзеля чаго гэта робіцца?

Не заўсёды ў нашай з вамі Камісіі, паважаны старшыня, знаходзіць разуменне тое, што далёка не ўсе т. зв. «лідэры нацыянальных таварыстваў», якія ў лепшым выпадку нярэдка налічваюць дзесятак-другі чалавек, прадстаўляюць нацыянальныя меншасці Беларусі. Вы раіце беларусам быць «ціхімі, негаманлівымі», а ўспомніце, як паводзяць сябе некаторыя з названых вышэй асоб: хіба што не махаюць кулакамі, патрабуючы таго, што супярэчыць дзейнаму заканадаўству і нацыянальным інтарэсам Беларусі. Можа, нам з вамі надрукаваць некаторыя лісты, якія прыходзяць у камісіі Вярхоўнага Савета ад названых «лідэраў», каб пацвердзіць сказанае вышэй?

У найменні Камісіі прысутнічае тэрмін «нацыянальная палітыка», што падкрэслівае неабходнасць улічваць як інтарэсы беларускага народа, так і нацыянальных меншасцей рэспублікі, а не купкі палітыканаў, якія прысвоілі сабе права гаварыць ад іх імя.

Дазвольце нагадаць, што ў ліку камісій, супраць стварэння якіх у часе фарміравання выступілі многія дэпутаты, была і Камісія па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах. Пры гэтым улічвалася тое, што ўсе пытанні нацыянальна-культурнага развіцця нацыянальных меншасцей Беларусі заканадаўча ўрэгуляваны ў дзейных законах аб мовах, адукацыі, культуры, грамадзянстве. Але, як вядома, тады ўмяшаўся ЦК КПБ. Там сказалі: ёсць у Маскве, будзе і ў нас! Дэпутацкая большасць падпарадкавалася ЦК КПБ. Але давайце не забывацца на тое, што менавіта ЦК КПСС «падараваў» народам Карабах, Тбілісі, Вільнюс, Прыднястроўе... У нас абышлося. Дык давайце ж самі не паспрыяем таму, каб некаторыя «абаронцы» правоў нацыянальных меншасцей (ад каго?!) сваімі недальнабачнымі дзеяннямі не паставілі рэспубліку перад фактамі небяспечных канфліктаў. І каб не вярнуліся часы, калі спадар-беларус, як у прыказцы сказана, зноў будзе прасіцца ў «дзядзечкі» пераначаваць пад лаўкай у роднай хаце. Не той добры, хто добранькі, а хто справядлівы, а таксама і ўдзячны народу, сярод якога жыве і часцінай якога з'яўляецца.

**Яўген ЦУМАРАЎ,**
**народны дэпутат**
**Вярхоўнага Савета РБ.**

## Мышка плакала...

**Плакала Мышка: «Шкада Коціка, нялёгка яму нашы костачкі глытаць».**

**Гэта я пра М. Слямнёва («Звязда», 23.01.1993 г.), які горка смуткуе, што быццам бы і рускія падвергліся такой жа асіміляцыі, як і беларусы. Цікава, хто ж іх асіміляваў: англічане, туркі?.. Мусіць, спадар Слямнёў ніколі не заходзіў у нашы кнігарні, не чытае і не слухае сродкі масавай інфармацыі, дзелавыя паперы — гэты «дзевяты вал» рускамоўя ў нашай краіне! «А слона-то и не приметил»! Стаяць перад сцяной і не бачыць сцяны — гэта ж анекдот.**

**Горш таго, спадар Слямнёў угаворвае Мышак дружыць на роўных з Коцікам. Як быццам Коцік ужо не вострыць на нас кіпцюры і перастаў зневажаць нашу мову і культуру, як быццам не было спроб навязаць нам суседнюю мову ў якасці дзяржаўнай. Чым жа гэта пахне?**

**У. ЛЯСКОЎСКІ,**
**педагог.**
г. п. Шаркоўшчына.

## *Весткі з Віленшчыны*

16 студзеня адбыўся сход віленскіх беларусаў, дзе абмяркоўваліся пытанні беларускага нацыянальнага Адраджэння ў Літве. Сход праводзіла рада ТБМ Віленскага краю.

* * *

У г. Коўне створана суполка ТБМ імя Ф. Скарыны (старшыня сп. Васіль Казлоўскі). Сяброў у складзе яе пакуль не шмат, але спадзяёмся, што колькасць іх неўзабаве павялічыцца.

* * *

Наспела неабходнасць стварэння на Віленшчыне і ўвогуле ў Літве Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады. Гэта дало б магчымасць беларусам, якія жывуць у Літоўскай рэспубліцы, удзельнічаць у палітычным жыцці сваёй Бацькаўшчыны Беларусі.

**Ю. ГІЛЬ,**
**сакратар ТБМ**
**імя Ф. Скарыны**
**Віленскага краю.**

## *Пачынаем, браты, прачынацца*

**Упершыню трымаю ў руках першы нумар за 1993 г. «Наша слова». Ад газеты сапраўды патыхае свежым ветрам перамен. Спадзяюся, што тыраж такой прагрэсіўнай газеты і пашырацца будзе ў прагрэсіі.**

**Пачынае прачынацца беларуская інтэлігенцыя і ў правінцыях, бо вельмі доўгі час яна спала на каменні. Напрыклад, у г. Маладзечна ў рускамоўнай школе № 7 пачатковыя класы пачалі працаваць на роднай мове. Дырэктар гэтай школы, паважаная спадарыня Вольга Васілеўна Малярэвіч, педагагічныя нарады вядзе толькі на дзяржаўнай мове. На аўтавакзале аб'явы таксама гучаць па-беларуску. Адным словам, як казаў калісьці Гарбачоў, «працэс пайшоў». Важна, каб з гэтага шляху не саштурхнулі нас прадстаўнікі імперскай ідэалогіі, якія атабарыліся ў Вярхоўным Савеце, як той, што абразіў нацыянальную сімволіку Рэспублікі Беларусь, а затым прапанаваў рускую мову зрабіць дзяржаўнай.**

**Прачытаў у газеце і пра асілкаў. Успомніў, як яшчэ перад саюзным рэферэндумам (быць Саюзу ці не) на мітынг, арганізаваны БНФ, прыехаў З. Пазьняк. Некаторыя выступаўшыя прапаноўвалі судзіць кампартыю за тое гора і пакуты, што прынесла народу. Я стаяў каля трыбуны. Побач са мной знаходзіўся другі сакратар гаркама кампартыі, які таксама падышоў да мікрафона. Але пасля таго як сказаў, якой ён партыі прадстаўнік, публіка не дазволіла яму выступіць. З. Пазьняк прасіў супакоіцца і прапанаваў, што трэба паслухаць і яго. Але сакратару ўсё ж не далі слова. Ён зноў аказаўся побач са мной, быў раззлаваны. Нарэшце, усе мы пачулі на чыстай роднай мове і прамову З. Пазьняка. Слухалі ўсе ціха і пранікнёна. Вось тады я параіў таму сакратару: пара вучыцца ў З. Пазьняка, як гаварыць, каб цябе слухаў народ. Дык з гэтай нагоды хачу пажадаць асілкам (З. Пазьняку і Ю. Хадыку) моцнага здароўя, адвагі і мужнасці ў барацьбе з гэтай нячыстай сілай, якая народ рабавала, знішчала, зневажала і давяла да галечы.**

**Л. Ц. АРМОНІК.**
г. Маладзечна.

## СЛАВУТАМУ ПАЎСТАННЮ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

*У Гародні адбыліся ўрачыстасці з нагоды 130-ых угодкаў пачатку паўстання 1863—1864 гадоў і 155-годдзя Кастуся Каліноўскага. Прыняты зварот да ўлады з шэрагам канкрэтных прапаноў. У прыватнасці, выказана пажаданне, каб абласныя ўлады ўзялі на сябе адказнасць і клопат за ўстанаўленне ў Гародні помніка К. Каліноўскаму.*

*Ладзілі ўрачыстасці суполка «Паходня», асацыяцыя вайскоўцаў запасу «Грунвальд», гарадская краязнаўчая асацыяцыя.*

**Наш карэспандэнт.**

 

# «Я НА ПАРОЗЕ НОВАГА СТАЮ, Я Ў ЖЫЦЦІ ШЧЭ МНОГАГА ЧАКАЮ»

*Штрыхі да партрэта Канстанцыі БУЙЛО*

15 студзеня ў Доме літаратара адбылася вечарына, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння Канстанцыі Буйло. Прайшла яна ў сардэчнай атмасферы. Запомнілася няспешная, прачулая гаворка з людзьмі вядучай Раісы Баравіковай. Цёплымі ўспамінамі аб паэтэсе падзяліліся Эдзі Агняцвет, Ядвіга Раманоўская, Сяргей Грахоўскі. Даследчыца творчасці Буйло Дзіяна Чаркасава расказала ўдзельнікам вечарыны, што ў 30-ыя гады Канстанцыі Антонаўне давялося знішчыць шмат сваіх вершаў, каб яны не трапілі ў рукі кадэбістаў. Алесь Пісьмянкоў прыгадаў сяброўства К. Буйло з карыфеямі беларускай літаратуры ў нашаніўскі перыяд, высокую ацэнку яе таленту Максімам Багдановічам, славуты зборнік «Курганная кветка», які афармляў Язэп Драздовіч. Сын Канстанцыі Антонаўны Яўген Вітальевіч Калечыц прыгадаў лёс маці і яе род. Сам Яўген Вітальевіч — прафесійны інжынер-будаўнік — праектаваў многія беларускія дарогі; сфера яго навуковай зацікаўленасці — філасофія, логіка, літаратура. У маладосці захапляўся паэзіяй Анненкава, Бальмонта, Гумілёва, Севяраніна, Брусава, Ахматавай, займаўся стылізацыяй, спасцігаючы прыёмы фармальнага майстэрства. Магчыма, таму вершы К. Буйло ў яго перакладзе («Звон», «То не песня мая», «Скарбы» і іншыя, прачытаныя на вечарыне) вызначаюцца філіграннай апрацоўкай формы, вытанчанасцю.

Слухаючы сына паэтэсы, я думала, як мала мы яе і аб ёй ведаем. У беларускай энцыклапедыі, біяграфічных даведніках пісьменнікаў і агалядных артыкулах, прысвечаных беларускай літаратуры, скупа асвятляецца яе творчы шлях, скажаюцца факты біяграфіі: «...нарадзілася ў в. Барсукоўшчына» або «...нарадзілася 11 студзеня 1899 г.» і да таго падобнае. На падставе такога датавання ўзнікала пытанне: як магла пятнаццацігадовая дзяўчынка выдаць у 1914 г. такі добры зборнік вершаў? Аказваецца, паэтэсе ў той час было больш за дваццаць гадоў. Другі прыклад. У літаратуразнаўстве ўсталявалася думка, што з 1914 г. і да Другой сусветнай вайны К. Буйло не пісала. Маўляў, так згубна адбіліся на яе творчасці войны, рэвалюцыі і пераезд у Маскву. Яўген Вітальевіч растлумачыў, што маўчанне паэтэсы было вымушаным. Яна лічылася жонкай «ворага народа». Хто б яе друкаваў? Мы даведаліся таксама, што яе муж Віталь Альфрэдавіч Калечыц паходзіў з беларускай шляхты. За ўдзел у паўстанні Тадэвуша Касцюшкі яго продкі былі сасланы ў Сібір. Выпускнік Пятроўскай сельскагаспадарчай акадэміі, ён атрымаў накіраванне ў Полацк, дзе пазнаёміўся і ажаніўся з Канстанцыяй Антонаўнай, якая працавала загадчыцай кнігарні. Пры набліжэнні фронту сям'я выехала спярша ў Валакаламск, затым у ільнаводчы саўгас Данілкава, адтуль у 1923 г. у Маскву. Канстанцыя Антонаўна пайшла працаваць на завод «Агранам» — была загадчыцай склада, а затым начальнікам аддзела збыту. Віталь Альфрэдавіч служыў у сельскагаспадарчым банку. На пачатку 1933 г. быў арыштаваны і абвінавачаны ў прыналежнасці да так званай сялянскай партыі, «контррэвалюцыйнай», вядома. У 1938 г. прапаў без вестак.

Доўгія гады К. Буйло жыла з сынам, церпячы ганьбу і нястачы. Аднак аптымізму не траціла. У кватэры візеў лозунг: «Не пішчаць!» У вайну яна засталася адна. Кватэра не ацяплялася, зімой тэмпература паветра даходзіла да — 15°, набліжалася галодная смерць. Яўгену Вітальевічу цудам удалося дапамагчы маці — пераслаць з фронту медыкаменты і прадукты. У вайну і пасля вайны аднаўляюцца старыя сувязі Канстанцыі Антонаўны з сябрамі, у першую чаргу з Уладзіславай Францаўнай Луцэвіч (пасля гібелі Я. Купалы). Аднойчы на парозе 1946 г. яна сустрэла беларускіх гасцей радкамі з новага верша: «Я на парозе новага стаю, Я ў жыцці шчэ многага чакаю». Пра бацькоў Канстанцыі Антонаўны — Настассю Францаўну і Антона Аляксандравіча — мы пачулі наступнае: маці паходзіла з батрацкай сям'і. Жыццёвы вопыт ёй падказваў, што выжыць можна, працуючы да мазалёў. Гэтаму і вучыла яна сваіх дзяцей. Бацька — няшлюбны сын сялянкі і шляхціца — маёмасці не меў і служыў па маёнтках ды фальварках. Працаваў дзе як выпадала: арандатарам, аб'ездчыкам лесу, цесляром, садоўнікам і інш. Быў майстрам на ўсе рукі. Вызначаўся пачуццём уласнай годнасці, што не раз прычыняўся да канфліктаў з работадаўцамі. Пасварыўшыся з адным панам, Антон Аляксандравіч пераходзіў служыць да другога. Сям'я вандравала па ўсёй Беларусі. Апрача Канстанцыі, у сям'і раслі Эдуард, Станіслава, Эмілія, Ядвіга, Міхаліна. Бацька стараўся дзяцей вучыць, каб не спасцігла іх доля панскіх служак.

Напрыканцы вечарыны прагучалі фанаграма голасу Канстанцыі Буйло і гімн «Люблю», у якім так шчыра і таленавіта выказала паэтэса сваю любоў да Бацькаўшчыны.

**Ірына КРЭНЬ.**

*Згадкі* *Згадкі*

***Беларускі народ да гэтага часу з вялікай цяжкасцю вяртае сваю гісторыю, у тым ліку часоў Другой сусветнай вайны. Нават пра дзейнасць партызан пакуль вядома практычна тое, што было дазволена функцыянерамі КПБ — КПСС, пра астатняе — паасобныя эпізоды. Пакуль што «аднафарбна» ў нас падаецца і культурна-асветная работа на акупаванай Беларусі. Яшчэ спрацоўвае ранейшы стэрэатып, але і гэтае няпростае пытанне патрабуе ўсё ж вырашэння. Як неабходна, нарэшце, разабрацца — ці такім ужо злом было тое, што ў час акупацыі пачала працаваць школа. Яшчэ ніхто не ведаў, калькі будзе цягнуцца праклятая вайна. Але ж падрасталі дзеці, і іх абавязкова трэба было вучыць без прамаруджвання. Інакш нацыя беззваротна губляла найкаштоўнейшы для свайго прыстойнага існавання культурна-адукацыйны патэнцыял. У гэтым сэнсе пэўную, думаецца, цікавасць для чытачоў уяўляе нарыс Г. Нямігі, апублікаваны ў навукова-папулярным часопісе беларускай эміграцыі «Запісы», 1989, № 19. Нагадаем, што ён выдаецца Беларускім Інстытутам Навукі і Мастацтва. Першыя 6 кніжак часопіса былі выдадзены ў 1952—1954 гадах у Нью-Йорку, затым у 1962—1970 гг. выпускаліся ў Мюнхене. Ад кнігі № 12 (1974) — зноў у Нью-Йорку.***

*Г. НЯМІГА*

# ВУЧЫЦЦА ТРЭБА БЫЛО

***Беларускае школьніцтва пад нямецкай акупацыяй Беларусі ў вайну 1941—1944 гг.***

Школьны год ува ўсіх навучальных установах БССР перад пачаткам вайны закончыўся. Абвешчаная агульная мабілізацыя не паспела загарнуць у армію ўсіх настаўнікаў прызыўнога веку. Маланкавае перамяшчэнне фронту не давала часу, але настаўніцкія кадры ўсё адно колькасна зменшыліся. Шмат хто быў выехаў з места працы перад пачаткам вайны або да сваякоў, або на адпачынак у іншыя рэспублікі, карыстаючыся вакацыйным часам.

Сябры ж камуністычнае партыі, камсамольцы ды ўсе іншыя актывісты паразбягаліся хто куды, асабліва з заходніх частак краю, далучаных да БССР у 1939 г., куды яны найбольш накіроўваліся ўладамі. Не заставаліся яны ў бальшыні на месцы і ў ранейшай БССР. Шмат загінула ў часе пераcоўвання фронту.

Значная частка ацалелага гарадскога настаўніцтва, застаўшыся без ніякіх сродкаў да жыцця (пагарэлі дамы з усім дабыткам, загінулі бацькаўскія ашчаднасці, калі іх хто меў), шукала прыпынішча ў правінцыі, у вёсках. Запанавала нечаканая агульная разгубленасць.

Школьныя будынкі ў гарадах калі не былі цалкам разбураныя вайной, то займаліся войскам. Гэтак было і ў мястэчках ды буйнейшых вясковых пунктах, асабліва ў тых, што былі пры рухлівых дарогах.

Перад пачаткам вайны, у 1940/41 навучальным годзе, у БССР налічвалася 11844 школы, у тым ліку: пачатковых — 8312, сямігадовых — 2562, сярэдніх — 934, іншых — 36. У іх навучалася 1691529 вучняў ды працавала 55626 настаўнікаў.

Вайна прынесла пагрозу, што новы навучальны год не распачнецца зусім, бо становішча было вельмі невыразнае, а немцы ў гэтым былі не зацікаўленыя. Яны думалі адно пра хутчэйшае захапленне Масквы, якое не ўдавалася, так як было запланавана.

Аднак гэта не сталася. Пра арганізацыю школьнага жыцця ў разбураным ды наводненым чужынецкімі войскамі краю пачала клапаціцца сама беларуская інтэлігенцыя. Дзеля паўнейшага ўяўлення пра шляхі школьнае арганізацыі таго часу неабходна прыгадаць адміністрацыйную структуру акупацыйных уладаў у Беларусі.

Пры канцы лета 1941 г., калі фронт крыху ўстабілізаваўся і быў дзесь за Смаленскам, у тылавых раёнах Беларусі, ад былой мяжы з г. зв. Генерал-Губернатарствам (акупаванай Польшчы), прыблізна да Барысава пачалі тварыцца нямецкія цывільныя акупацыйныя ўлады, каторыя пачалі даваць дазволы на тварэнне мясцовых самаўрадаў.

На невялікай частцы Беларусі быў утвораны з сядзібаю ў Менску г. зв. генеральны камісарыят Беларусі, што падпарадкаваўся г. зв. райхскамісарыяту «Остлянд» з сядзібаю ў Рызе.

Уся акупаваная тэрыторыя Беларусі, ад Барысава па Смаленск уключна, з Бабруйшчынай, Магілёўшчынай, Віцебшчынай і Гомельшчынай былі падпарадкаваны выключна вайсковым уладам — «фельдкамандантам». Берасцейшчына была надначалена генеральнаму камісарыяту Украіны, а Беласточчына была ўключана ў адміністрацыю Усходніх Прусаў.

Генеральны камісарыят Беларусі быў падзелены на гэбіты, гэбіты на паветы, а паветы на валасці. У гэбітах сядзелі і гаспадарылі выключна немцы, або г. зв. «фолькcдойчы», а паветы, апрача гэбітскамісарам, былі падпарадкаваны яшчэ адмысловым «зондэрфюрэрам» у кажным павеце.

Мясцовае насельніцтва магло тварыць адно валасныя ўправы і павятовыя ўправы ў вёсках ды гарадскія і мястэчковыя ўправы. Валасных старшыняў прызначала павятовая ўправа ў паразуменні з «зондэрфюрэрам». На чале местачковых і гарадскіх управаў былі немцы — камісары гарадоў, а ў Менску і на чале ўсіх аддзелаў управы былі немцы-камісары. Павятовых бургмістраў ды іхніх заступнікаў прызначаў гэбіткамісар паводле рэкамендацыяў мясцовых арганізацыяў, а найчасцей зусім самастойна і наўсуперак рэкамендацыям.

Адзінай легальнай, у пачатку акупацыі, беларускай арганізацыяй грамадска-дапамаговага характару была Беларуская народная самапомач, дзе не было камісараў немцаў, але галоўны ейны кіраўнік-беларус усё ж быў зацверджаны нямецкімі ўладамі.

Камітэты самапомачы заняліся былі перш-наперш дапамогай найбольш патрабуючым шляхам арганізацыі грамадскіх страўняў, прытулкаў, збіраннем ды раздаваннем вопраткі і абутку ды ўрэшце садзейнічаннем у арганізацыі школаў, розных курсаў і культурных установаў. Ніякіх датацыяў ад акупацыйных уладаў БНС не мела, а ўтрымоўвалася і вяла шырокую дапамаговую працу, дзякуючы матэрыяльнай падтрымцы насельніцтва. Праводзіліся сістэматычна зборкі вопраткі, абутку, харчовых прадуктаў і грошай ува ўсіх паселішчах Беларусі.

Калі ўстанавілася ў сталіцы Беларусі — Менску цывільная акупацыйная ўлада і мясцовыя беларускія ўстановы, у Менск прыехаў ведамы беларускі дзеяч, удзельнік Усебеларускага Кангрэса 1917 г. кс. В. Гадлеўскі, у свой час праследаваны за беларускую нацыянальную працу духоўнымі польскімі каталіцкімі ўладамі. Кс. Гадлеўскаму ўдалося перакапаць нямецкія цывільныя ўлады аб патрэбе адчынення як найхутчэй, дзе можна, пачатковых школаў. Тады пры генеральным камісарыяце Беларусі быў утвораны Беларускі галоўны школьны інспектарат, а за галоўнага школьнага інспектара быў прызначаны кс. В. Гадлеўскі.

Насельніцтва і настаўнікі прыхільна адгукнуліся на ініцыятыву школьнага інспектарата. Ува ўсіх паветах генеральнага камісарыята Беларусі пачалася цяжкая праца ў падрыхтоўцы пачатку новага навучальнага года. Шмат школьных будынкаў вымагала значнага рамонту, а тыя невялікія сумы грошай, што маглі асігнаваць толькі што створаныя мясцовыя самаўрады, не маглі пакрыць усіх патрэбаў. Да гэтага яшчэ трэба дадаць вялікія цяжкасці ў здабыванні неабходных матэрыялаў, бо ніякага тады цэнтралізаванага забеспячэння не было. Цэны дыктаваў чорны рынак, а ўсё патрэбнае вышукоўвалася і здабывалася ў залежнасці ад спрыту і зваротлівасці. Насельніцтва само ахвотна ішло на дапамогу працай, матэрыяламі і ўсім, што магло здабыць. Апрача ўсяго гэтага патрабавалася вялікая напружанасць і станоўкасць, каб у шмат якіх месцах дамагчыся ад акупацыйных і вайсковых уладаў звальнення занятых імі школьных будынкаў. Удавалася гэта не заўсёды.

Матэрыяльнае становішча настаўнікаў, асабліва ў гарадах, было жахлівае. Мясцовыя самаўрады маглі адно выплачваць, і не заўсёды рэгулярна, пенсіі паводле даваеннага ўсталёванага Саветамі тарыфу. Сярэдняя настаўніцкая стаўка была каля 300—350 рублёў у месяц, або 30—35 акупацыйных марак. Дзесяць рублёў лічылася тады за адну акупацыйную марку, а фунт масла на чорным рынку каштаваў гэтульки ж. Настаўнікі Менска, апрача гэтага ды фунта ячменна-аўсянага з асцюкамі хлеба, ніякіх даходаў не мелі. З гэтакага заробку трэба было апранацца, заплаціць за кватэру, святло і апал. Ратавала ад галоднай смерці страўня БНС, дзе штодзень маглі атрымаць міску посная жытняй заціркі, а часамі і прынесці яе крыху дадому дзецям.

*(Працяг будзе).*



 

# Вучымся!

## УРОК ЧАЦВЕРТЫ

*Вайскоўцам пра родную мову*

### *Фанетычная размінка*

1. Прачытайце і запомніце скорагаворкі. Прагаварыце хутка па тры разы.

Панкратава карта ў Карпа, Карпава карта ў Панкрата. Ішоў Ходша па шашы і нёс кашу ў кашы.

2. Прачытайце словы, захоўваючы правілы вымаўлення галосных і зычных гукаў.

| | |
|---|---|
| Даруйце | добрага |
| прабачце | лепшага |
| выбачайце | шчаслівага |
| будзьце | хуткага |
| прывітайце | шчырага |
| віншуйце | паважанага |
| дазвольце | удзячнага |

3. Прачытайце верш Петруся Броўкі, растлумачце правілы вымаўлення вылучаных слоў.

### Калі ласка!

У любімай мове, роднай, наскай,
Ах, якія словы: «Калі ласка!..»
Як *звіняць* яны *сардэчнаю* струною,
Праз усё жыццё ідуць са мною.
Трапіць *госць* у будзень, а ці ў *свята:*
— Калі ласка, калі ласка ў хату!
Не *паспелі сесці* пры *сустрэчы,*
Як патэльня *засквірчэла* ў *печы,*
Ды і *чарка* бліснула *дарэчы,*
Бульба, смажаніна і каўбаска,
Пакаштуйце, *людцы,* калі ласка!
Хлопец кажа *дарагой дзяўчыне:*
— Калі ласка! Будзеш *гаспадыняй!..*
Эх, жыццё збудуем мы *прыгожа,*
Усе з табой *нягоды* пераможам.
*Гром грыміць.* З нябёсамі размова:
— Калі ласка, *цёплы* дождж вясновы!
І не вельмі буйны і не *рэдкі* —
На сады, на *пушчы,* на палеткі,
На *грыбы,* на ягады, на кветкі...
— Калі ласка! — наш зварот бясконцы.
Мы *гаворым* ранішняму сонцу:
— Калі ласка, сонца, *выйдзі* з хмары,
*Радасцю* аблашчы нашы твары,
Ты ўзнімі з сабою нашы мары!
— Калі ласка!.. — нашай роднай мовы
*Шчырыя* і ветлівыя словы.

### *Паўтарэнне вывучанага*

1. Назавіце вядомыя Вам словы ветлівасці і выкарыстайце іх пры такіх сітуацыях:

* Сустрэліся двое добра знаёмых людзей.
* Вы развітваецеся з сябрам каля парога яго хаты.
* Што гавораць, што зычаць блізкаму чалавеку, які едзе ў далёкую дарогу.
* Папрасіце аркуш паперы напісаць рапарт.
* Скажыце словы ўдзячнасці за паслугу.
* Павіншуйце сябра з днём прыняцця прысягі (днём нараджэння).
* Вы зайшлі ў хату, гаспадары якой абедаюць. Што трэба сказаць?
* Папрасіце прабачэння за прычыненую непрыемнасць.
* Падзякуйце дзіцяці за паслугу.
* Папрасіце прабачэння за магчымыя недахопы ў выкананай рабоце.

2. а) Спішыце тэкст, растлумачце правапіс **у, ў.**

Пад поўдзень рота заняла боем рад траншэй на ўскрайку лесу. Уся зямля тут усыпана безліччу варонак. І ў ямках, і проста ў траве валялася шмат металу. Увесь час білі варожыя гарматы. Байцы пачалі хутка акопвацца. Хоць Юра *ведаў,* што тут будуць стаяць нядоўга, таксама *выкапаў сабе акопчык. Упершыню ён свядома адчуў,* як многа *перажыў* і *пераадолеў* за некалькі гадзін свайго першага ў жыцці бою.

б) Пастаўце вылучаныя дзеясловы ў такой граматычнай форме, каб **ў** чаргавалася з **л.**

## Тлумачэнне новай тэмы: Зацвярдзелыя зычныя гукі. Правапіс галосных пасля зацвярдзелых зычных

У беларускай мове гукі **ж [дж], ш, ч, р, ц** ніколі мяккімі не бываюць і таму гэтыя зычныя называюцца зацвярдзелымі.

Пасля **ж [дж], ш, ч, р, ц** — пішуцца галосныя **а, о, у, э, ы,** напрыклад: *жыць, жоўты, хаджэнне, шэсць, шырокі, чэсць, чатыры, арабіна, бяроза, цэлы, пазіцыя.*

У адрозненне ад расійскай у беларускай мове ёсць мяккі гук **ц,** які перадаецца на пісьме літарай **ц.** Параўнайце словы, напісаныя па-беларуску і па-расійску: *пацеха — потеха, у пяхоце — в пехоте, цішыня — тишина, цёплы — тёплый, камандаваць — командовать.*

### *Замацаванне новай тэмы*

1. Прачытайце сказы, растлумачце напісанне арфаграм з зацвярдзелымі зычнымі.

На вышыні ўсё было падрыхтавана, каб размясціць камандны пункт. «Трэба трымацца»,— задумена, нешта тоячы сваё, трывожнае, як бы пераконваючы сябе, прагаварыў лейтэнант. З вышыні ён глядзеў на пагоркі, у асмужаную далячынь.

Былі сярод нас авіятары, артылерысты, маракі, агульнавайсковыя камандзіры, нават ваенныя ўрачы.

2. Спішыце словы, растлумачце напісанне галосных літар пасля **ц.** З выдзеленымі словамі складзіце сказы.

Станцыя, цырк, цэлы, цыркуль, *дысцыпліна, цыстэрна,* рэпетыцыя, *цэнтральны,* канцылярыя, цыбуля, *працэнт,* пацыент, *дыстанцыя.*

3. Змяніце дзеясловы, як паказвае ўзор. Запішыце.

Берагчы кнігі — *беражы* кнігі, паказаць прыклад — ..., напісаць пісьмо — ..., перавязаць рану — ..., рашыць задачу — ..., сказаць праўду — ... .

## Узбагачэнне слоўнікавага запасу і развіццё мовы

**Чалавек**

Галава, нос, губы, зубы, язык, шчокі, вушы, вусы, барада, валасы, шыя, рука, нага, пальцы, ногці, кулак, локаць, калена, жывот, спіна, грудзі (толькі ў множным ліку), плечы, сэрца. Нагадаем і адметныя беларускія назвы частак цела: лицо — твар, фигура — стан, глаза — вочы (вока), ресницы — вейкі, виски — скроні.

**Знешні выгляд**

Высокі, нізкі, сярэдняга росту, стройны, худы, хударлявы, тоўсты, даўганогі, гарбаты, згорблены, спартыўнага складу.

**Вочы**

Колер (цвет): сінія, блакітныя (галубые), шэрыя, карыя, чорныя, выцвілыя.

Паводле формы: вялікія, малыя, невялікія, круглыя, вырачаныя (вытаращенные).

Паводле выразу: добрыя, ясныя, закаханыя, ласкавыя, пільныя, разумныя, рашучыя, смелыя, хітрыя, строгія, суровыя.

**Дзеянне і стан чалавека**

Чалавек ідзе, едзе, бяжыць, *спатыкаецца, старaецца, купаецца, мыецца, служыць,* страляе, мерае, рапартуе, дакладвае, *звальняецца, вучыцца,* запамінае, думае, спіць, ляжыць, сядзіць, стаіць, *смяецца, знаходзіцца,* танцуе, спявае, іграе, думае, піша, крычыць, капае, плача, пасылае.

**Запомніце беларуска-расійскія адпаведнікі:**

працуе — работает; робіць — делает; пытае — спрашивает; *адказвае* — отвечает; памятае — помнит; *хвалюецца* — волнуется; *сварыцца* — ругается; марыць — мечтает; фарбуе — красит; прасуе — утюжит; есць — кушает; будуе — строит; *памыляецца* — ошибается; чуе — слышит; захоўвае — сохраняет; вартуе — охраняет.

**Замацаванне.**

1. Вы прачыталі больш за сто слоў. Прааналізуйце і скажыце, якія з іх Вы ўжо ведаеце і якія Вам неабходна запомніць.

2. Новыя для Вас словы запішыце і складзіце з імі сказы.

3. Выдзеленыя дзеясловы (глаголы) спалучыце са словам *ты,* запішыце і прачытайце, напрыклад: ідзе — ты ідзеш, спатыкаецца — ты спатыкаешся.

4. Апішыце знешні выгляд свайго знаёмага (сябра, сяброўкі, суседа, суседкі, сына, дачкі).

5. Выкарыстайце наступныя выразы ў дыялогу або для паведамлення.

* Ён высокага росту (высокі).
* Яна невысокая (невысокага росту, маленькая).
* У Вас які рост?
* Вы сёння цудоўна выглядаеце.
* У яго інтэлігентны выгляд.
* Як Вы сябе адчуваеце?
* Вы служыце на старым месцы?
* Дзе Вы зараз служыце?
* Апішыце знешні выгляд Вашага камандзіра.
* Мне вельмі падабаецца яго характар.
* Яму цяжка будзе жыць з такім характарам.
* Якая ў яго адукацыя?
* Ён мае вышэйшую адукацыю.

## *Кароткая энцыклапедыя беларускай мовы*

**Мсціслаў АЛЯХНОВІЧ** (22.11.1905, Гродна — 24.VII.1982) скончыў Віленскі універсітэт, доктар філалагічных і педагагічных навук, прафесар, працаваў журналістам (у расійскамоўных газетах у Вільні), у Лодзінскім універсітэце. У 1963 г. М. Аляхновіч абараніў доктарскую дысертацыю «Польскія зацікаўленні беларускім народам», дзе, у прыватнасці, разгледзеў даследаванне польскага лінгвіста С. Клячэўскага, які лічыў беларускую мову адной з першабытных славянскіх моў.

М. Аляхновіч адзначыў уплывы беларускай мовы — дзяржаўнай мовы Вялікага княства Літоўскага — на польскую. «Ягелоны,— пісаў вучоны,— часта і ахвотна гаварылі па-беларуску». М. Аляхновіч паказаў, што беларускую мову шырока выкарыстоўвала шляхта ў часы рэфармацыі, калі яе ўзначальваў Міхал Радзівіл, які імкнуўся распаўсюджваць пратэстантызм з дапамогаю кальвінскіх кніг, друкаваных па-беларуску», і звярнуў увагу на дзейнасць С. Буднага, паляка паводле паходжання, які добра вывучыў беларускую мову і друкаваў на ёй кнігі.

*Паводле В. Л. Вярэніча, І. У. Саламевіча.*

**Аманімія** — гэта гукавое супадзенне слоў, што адрозніваюцца паміж сабою значэннем. Прыкладам, *гасцінец* (ласункі дзецям) і *гасцінец* (вялікая дарога), *жураве́ль* (птушка) і *жураве́ль* (над калодзежам). Адрозніваюць лексічныя, фанетычныя і марфалагічныя амонімы і амографы.

**Анамастыка** (ад грэчаскага слова «анамасцікэ» — майстэрства называць) — навука пра ўласныя імёны. Спецыфіка анамастыкі ў тым, што вывучэнне імёнаў выходзіць за межы мовазнаўства і патрабуе ўліку гістарычных, геаграфічных, сацыяльна-эканамічных ды іншых фактараў. Найбольш распрацаваныя раздзелы анамастыкі — тапаніміка (вывучае назвы геаграфічных аб'ектаў) і антрапаніміка (вывучае людзей).

*Паводле В. П. Лемцюговай.*

**Ананімная беларуская літаратура канца XVIII — першай палавіны XIX стагоддзя і яе мова.** У гэты час Беларусь трапіла пад уладу царскай Расіі, і дзяржаўнай мовай тут стала мова расійская. Але сяляне, мяшчане і беднейшая шляхта не толькі размаўлялі па-беларуску, але і стваралі песні, прыпеўкі, казкі. Іх аўтары засталіся невядомымі, але збіральнікі народнай творчасці запісалі некаторыя творы, і таму яны дайшлі да нас. Сталі вядомымі песні «Із-за Слуцка, із-за Клецка», «Песня беларускіх жаўнераў 1794 года», паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе».

Асаблівасць мовы ананімных твораў у тым, што на мову аўтара паўплывала мова асяроддзя, дзе твор бытаваў. У ананімных творах выявіліся дзеканне, цеканне, аканне, яканне ды іншыя рысы беларускай мовы і дыялектызмы.

*Паводле І. І. Крамко.*

**Уладзімір АНІЧЭНКА** (20.VII.1924) — доктар філалагічных навук, загадчык кафедры беларускай мовы Гомельскага універсітэта, заслужаны дзеяч навукі БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1988 г.) за комплекс навуковых прац «Скарыніяна», выдаў з навуковым каментарам рукапісы помніка старой беларускай пісьменнасці «Александрыя».

*Паводле І. К. Германовіча.*

**Антонімы** — пары слоў з процілеглым значэннем: *святло — цемра, правы — левы, многа — мала.* Антонімы бываюць поўныя *(будаваць — разбураць),* няпоўныя ці частковыя *(радасць* толькі ў адным значэнні супрацьпастаўляецца слову *смутак),* а таксама кантэкстуальныя. Іх сэнсавая процілегласць успрымаецца толькі ў пэўнай сітуацыі моўных зносін: І радасць — ніякая радасць, а горыч, І песня — ніякая песня, а скарга... (Максім Танк).

*Паводле Г. К. Усціновіч.*

# БЕЛАРУСЬ У ГЛЫБОКАЙ СТАРАЖЫТНАСЦІ

## (храналогія)

| | |
|---|---|
| 100—40 тысяч гадоў назад | Паяўленне чалавека (эпоха палеаліта) на тэрыторыі Беларусі. |
| IX—V тысячагоддзі да нашай эры | Эпоха мезаліту (сярэдні каменны век). |
| IV—III тысячагоддзі да нашай эры | Эпоха неаліту (новы каменны век). |
| II тысячагоддзе да нашай эры | Эпоха бронзы. |
| VII—VI стагоддзі да нашай эры | Пачатак жалезнага веку на поўдні Беларусі. |
| VI—VIII стагоддзі | Рассяленне славян сярод балтаў на тэрыторыі Беларусі. |
| VIII—X стагоддзі | Аб'яднанні ўсходніх славян (на тэрыторыі Беларусі крывічы-палачане, дрыгавічы, радзімічы). |
| 862 г. | Першыя летапісныя звесткі пра г. Полацк (Полотеск) і яго волáсць. Пачатак беларускай дзяржаўнасці. |
| 907 г. | Удзел крывічоў і радзімічаў у паходзе кіеўскага князя Алега на Царград (Канстанцінопаль). |
| 974 г. | Першыя звесткі пра г. Віцебск (Видбеск). |
| 980 г. (па іншых дадзеных 970) | Першае летапіснае паведамленне пра самастойныя дзяржавы на тэрыторыі Беларусі — Полацкую зямлю і Тураўскае княства. |
| Другая палова X стагоддзя | Жыццё і дзейнасць Рагнеды Рагвалодаўны, полацкай князёўны, кіеўскай княгіні, манашкі Анастасіі. |
| 980 г. | Першыя летапісныя звесткі пра Тураў. |
| 988 г. | Прыняцце хрысціянства ў Кіеўскай Русі. |
| Канец X стагоддзя (да 1001 г.) | Княжанне ў Полацку Ізяслава Уладзіміравіча. |
| 988—1015 гг. | Княжанне ў Тураве Святаполка Уладзіміравіча. |
| 992 г. | Утварэнне епархіі ў Полацку. |
| Канец X стагоддзя | Першыя летапісныя звесткі пра г. Ізяслаўль (цяпер Заслаўе). |
| 1009 г. | Першае ўпамінанне Літвы ў заходніх крыніцах. |
| 1054 г. | Канчатковы падзел хрысціянскай царквы на каталіцкую і праваслаўную. |
| 50-ыя гады XI стагоддзя | Будаўніцтва ў Полацку Сафійскага сабора. |
| 1044—1101 гг. | Княжанне ў Полацку Усяслава Брачыславіча, празванага Чарадзеем. |
| 1065 г. | Паход полацкага князя Усяслава па Пскоў. |
| 1066 г. | Захоп полацкім князем Усяславам Ноўгарада. |
| 1067 г. | Першыя летапісныя звесткі пра гарады Менск (Меньск) і Оршу (Рьша). |
| 1067 г. | Бітва на Нямізе паміж войскамі кааліцыі паўднёварускіх князёў Яраславічаў і полацкага князя Усяслава. |
| 1068—1069 гг. | Народнае паўстанне ў Кіеве. Княжанне ў Кіеве полацкага князя Усяслава. |
| 1097 г. | Першыя летапісныя звесткі пра Пінск (Пинеск). |
| 1101—1119 гг. | Княжанне ў Менску Глеба Усяславіча (Менскага). |
| 1102 г. | Заснаванне Барысава (паводле вызначэння В. Тацішчава). |
| 1116 г. | Першыя летапісныя звесткі пра Слуцк (Случеск). |
| Каля 1104— 23 мая 1167 гг. | Жыццё і дзейнасць прападобнай Ефрасінні Полацкай, ігуменні манастыра св. Спаса ў Полацку, асветніцы старажытных зямель Беларусі. |
| Пачатак XII стагоддзя | Утварэнне Гарадзенскага (Гродзенскага) княства. |
| 1127 г. | Паход кіеўскага князя Мсціслава Уладзіміравіча на Полацкую зямлю. |
| 1127 г. | Першыя летапісныя звесткі пра гарады Гародня (Гродна) і Клецк. |
| Каля 1130— каля 1182 гг. | Жыццё і творчасць епіскапа Кірылы Тураўскага — пісьменніка і прамоўцы. |
| 1132 г. | Веча ў Полацку выбірае князем Васільку. |
| 1142 г. | Першыя летапісныя звесткі пра гарады Гомель (Гомій) і Рагачоў. |
| 1147 г. | Першыя летапісныя звесткі пра г. Брагін (Брягин). |
| 1-ая палова XII стагоддзя | Заснаванне ў Бельчыцах (каля Полацка) Барысаглебскага манастыра. |
| Сярэдзіна XII стагоддзя | Жыццё і дзейнасць Іаана, полацкага дойліда, выдатнага прадстаўніка полацкай архітэктурнай школы. |
| 1150-ыя гады | Будаўніцтва ў Полацку Спаскага храма (заказчыца Ефрасіння). |
| 1155 г. | Першыя летапісныя звесткі пра Мазыр. |
| 1158 г. (па летапісу 1159 г.) | Хваляванні гараджан у Полацку і Друцку. |
| 1158 г., 1160 г., 1161 г. | Аблогі Менска полацкім князем Рагвалодам Барысавічам. |
| 1159 г. | Першыя летапісныя звесткі пра Чачэрск. |
| 1160 г. | Вылучэнне Слуцкага ўдзельнага княства з Тураўскай зямлі. |
| 2-ая палова XII стагоддзя | Вылучэнне Віцебскага ўдзельнага княства з Полацкай зямлі. |
| 2-ая палова XII стагоддзя | Вылучэнне Пінскага ўдзельнага княства з Тураўскага княства. |
| 2-ая палова XII стагоддзя | Будаўніцтва ў Гародні Барысаглебскай (Каложскай) царквы. |
| 1180 г. | Утварэнне Мсціслаўскага ўдзельнага княства. |
| 1203—1216 гг. | Барацьба полацкага князя Уладзіміра супраць нямецкіх рыцараў. |
| 1206—1208 гг. | Барацьба кукенойскага князя Вячкі супраць крыжакоў. |
| 1210 г. | Мірны дагавор паміж Полацкам і немцамі пры ўдзеле Смаленска аб выплаце Полацку даніны лівамі. |
| 1212 г. | Мірны дагавор Полацка з Рыгаю аб свабодным плаванні купцоў па Заходняй Дзвіне. |
| 1214 г. | Першыя летапісныя звесткі пра Рэчыцу. |
| 1223 г. | Мірны дагавор Смаленска і Полацка з Рыгаю. |
| 1229 г. | Гандлёвы дагавор Смаленска, Полацка і Віцебска з Рыгаю і Готландам («Смаленская гандлёвая праўда»). |
| 1230-ыя гг. | Заснаванне Міндоўгам беларуска-літоўскай дзяржавы — асновы Вялікага княства Літоўскага. |
| 1230-ыя — 1263 гг. | Княжанне Міндоўга ў беларуска-літоўскай дзяржаве. |
| 1237 г. | Аб'яднанне Ордэна мечаносцаў з Тэўтонскім ордэнам — заснаванне Лівонскага ордэна. |
| 1240 г., 15 ліпеня | Перамога войск наўгародскага князя Аляксандра Яраславіча (Неўскага) над шведскім войскам на р. Нява; удзел у гэтай бітве Якава Палачаніна. |
| 1242 г., 5 красавіка | Перамога войск наўгародскага князя Аляксандра Неўскага над нямецкімі крыжакамі на Чудскім возеры. |
| Сярэдзіна XIII стагоддзя | Пачатак будаўніцтва Навагрудскага мураванага замка. Утварэнне Навагрудскага княства. |
| 1252 г. | Першыя летапісныя звесткі пра гарады Навагрудак (Новогородок), Слонім (Услоним), Ваўкавыск (Волковыеск) і Здзітаў (цяпер вёска ў Бярозаўскім раёне). |
| 1253 г. (па некаторых крыніцах 1252 г.). | Вялікі князь Міндоўг [1200 (?) — 1263]. |
| 1250-ыя гады — 1263 г. | Княжанне Таўцівіла ў Полацку. |
| 1253 г., 1259 г., 1275 г., 1287 г. | Набегі татараў на землі Беларусі і Літвы. |
| 1260 г., 13 ліпеня | Разгром крыжакоў войскам Вялікага княства Літоўскага з удзелам полацкіх дружын каля возера Дурбе. |
| 1262 г. | Дагавор паміж князем Вялікага княства Літоўскага Міндоўгам і наўгародскім князем Аляксандрам Неўскім пра сумесную барацьбу супраць Лівонскага ордэна. |
| 1267—1270 гг. | Княжанне ў Вялікім княстве Літоўскім Шварна Данілавіча. |
| Каля 1270 г. | Знак «Пагоня» ўпершыню зафіксаваны як герб Навагрудка. |
| 1270—1282 гг. | Княжанне ў Вялікім княстве Літоўскім Трайдзэна. |
| 1274 г. | У Іпацьеўскім летапісе ўпершыню ўжыты тэрмін «Палессе». |
| 1274 г. | Першыя летапісныя звесткі пра Капыль. |
| 1274 г. | Няўдалая аблога Навагрудка аб'яднаным галіцка-валынскім і татарскім войскамі. |
| 1275 г. | Удзел тураўскіх і пінскіх войск у паходзе галіцка-валынскіх князёў на Літву. |
| 1276—1288 гг. | Першыя летапісныя звесткі пра Камянец і будаўніцтва Камянецкай вежы. |

**Г. В. ШТЫХАЎ,**
**доктар гістарычных навук.**




*Рубрыку вядзе*

*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Традыцыі «залатога веку» італьянскай лірычнай паэзіі годна падтрымалі ў пачатку XIX стагоддзя Уга Фоскала (1778—1827) і Джакома Леапардзі (1798—1837). Але калі першы з гэтых двух паэтаў аддаў вялікую даніну традыцыйнаму санету, дык Леапардзі засвойваў не вельмі звыклую форму сілаба-танічнага белага верша.

*Уга ФОСКАЛА*

## Пра сябе

Нясцішна звоняць ува мне аковы
Тугі, надзей, маўклівасці, кахання
Жывога. Пра *яе* мае размовы
І думкі ўсе — нібы наканаванне.

Самотны бераг, ты мне спачуванне
Адзін выказваў... Кожнай ноччу новай
На камяні кладу свае рыданні
Ды песні рэчаіснасці суровай.

Я шчыра расказаў, як дарагія
І ўсмешлівыя вочы, бы праменне,
Мне сэрца працялі; як вусны тыя

І голас боскі, й валасоў зіхценне
Мяне заваражылі — каб заўжды я
Ліў слёзы ад любові й захаплення.

*Джакома ЛЕАПАРДЗІ*

## Бясконцасць

Заўсёды я любіў самотны ўзгорак
І агароджу, што ў вачэй кавалак
Вялікі далягляду забірае;
Ды, седзячы тут, я гляджу ў прастору
Бясконцую й сабе ўяўляю ў думках
Таемную маўклівасць ды глыбокі
Спакой надчалавечы — і праз гэта
Да сэрца падступае жах. Я пошум
Пачую ветру ў дрэвах і міжволі
З ім параўноўваю маўклівасць гэтай
Бясконцасці, й тут вечнасць ды стагоддзі
Мінулыя прыгадваю адразу.
У гэткай неабдымнасці ўсе думкі
Знікаюць. І мне соладка загінуць,
Крушэнне пацярпець у гэтым моры.

## Да самога сябе

Суцішышся ты зараз,
Знямоганае сэрца. Знік апошні
Падман, што мне здаваўся вечным.
Ён знік. І тут адчуў я:
Падманныя жаданні ды надзеі
Пагаслі. Змоўч навекі;
Ты надта моцна білася і — марна:
Нішто і подыху твайго не варта,
Зямля — таксама. Смутак
Ды боль адны ў жыцці. Сусвет ёсць багна.
Суцішся, сэрца. Роспач
З табой апошні раз хай будзе: роду
Памерці нашаму наканавана.
Ад сёння пагарджаю
Табой, прырода — ўладцай сіл таемных,
Што існаму ў сусвеце скон прыносяць
І мітусню пустую.

**Пераклад з італьянскай**
**Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.**

# *На Даўгаве маю гонар...*

Нястомны руплівец на ніве беларускай культуры Вячаслаў Целеш прадэманстраваў свае працы ў сталічным мастацкім музеі. Жывапісец і графік, які стала жыве ў Рызе, не толькі не страціў духоўнай повязі са сваім народам, але працягвае і ў Латвіі культурна-асветніцкую дзейнасць сярод тамтэйшых беларусаў: узначальвае творчае аб'яднанне беларусаў-мастакоў Балтыі «Маю гонар», а таксама выхоўвае беларускіх дзетак у рыжскай мастацкай студыі «Вясёлка». Кожнаму гісторыку і аматару даўніны на Бацькаўшчыне добра вядомы ўнікальны фотаальбом «Мінск на старых паштоўках», аўтарам і складальнікам якога з'яўляецца менавіта наш зямляк.

Так склаўся жыццёвы лёс беларускага юнака, што з 1961 г. ён пачаў навучанне ў рыжскіх мастацкіх студыях. У 1975 г. паспяхова закончыў педагагічнае аддзяленне Латвійскай акадэміі мастацтваў. Жыццё ў Латвіі, натуральна, зблізіла мастака з яе людзьмі і навакольным прыродным светам. Вынікам гэтых сувязей сталі многія жывапісныя творы Целеша ў пейзажным і партрэтным жанрах. На цяперашняй выставе ў Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі ўвагу аматараў мастацтва прыцягнулі алейныя краявіды «Тэрвэцкі лес» (1990), «Пляўнiякі» (1981), «Гаўя ля Цэсіса» (1987) і некаторыя іншыя. Асабліва ўдаўся жывапісцу гарманічны, прасякнуты яркім эмацыянальным настроем краявід «Рыга. Парк Аркадзія», напісаны ў 1975 годзе. Ля гэтага твора, а таксама некаторых прасякнутых лірызмам нацюрмортаў затрымліваліся амаль ці не ўсе наведвальнікі выставы.

Адзін з напрамкаў у творчасці мастака — партрэтны жывапіс. З прадстаўленых твораў найбольш прыцягваюць трактоўкі вобразаў Багдановіча, Францішка Скарыны, Дуніна-Марцінкевіча. Графічны цыкл работ «У ценю часу трыумфаў» ствараўся ў апошнія гады і выяўляе аўтара як патрыёта і гуманіста. Невялікі сатырычны малюнак «Нацыянальны нігілізм», на мой погляд, яскрава паказвае ганебную навалу русіфікацыі, якая грувасціцца то пад двухгаловым арлом, то пад чырвоным штандарам камуністычнага месіянства. Супраць духоўнай смерці, супраць імперскай брыдоты псеўдаславянства накіраваны галоўны пафас гэтага твора. Галоўныя накірункі ў творчасці Вячкі Целеша засведчылі, што ў яго асобе мы маем мастака-адраджэнца, і нам застаецца толькі пажадаць яму сапраўдных артыстычных удач на наступных вернісажах.

**Л. ЛІСТАПАД.**

# Зважай на спадчыну, студэнт!

**Мастацкая вучэльня пры Беларускай акадэміі мастацтваў пачала ўсталёўваць і шанаваць традыцыі сваёй уласнай гісторыі. У лістападзе 1992 года адбылося пасвячэнне навучэнцаў-першакурснікаў. Дзеля гэтага педагогі і моладзь сабраліся ў зале старажытнага беларускага мастацтва. Гучалі ўрачыстыя прамовы і настаўленні, звернутыя да маладых разьбяроў і жывапісцаў. Усё было надзвычай прыстойна, і повязь часоў відавочна і рэальна прысутнічала на гэтай імпрэзе. А спеўны гурт «Ліцьвіны», запрошаны на свята, толькі яшчэ падвышаў чароўнасць падзеі.**

**Наступнай ініцыятывай з боку педагогаў стала адкрыццё рэтраспектыўнай выставы дыпломных работ сваіх выпускнікоў за ўсе 45 гадоў існавання навучальнай установы. Зрабіць гэта было цяжка, бо гэтыя работы, на жаль, не зберагаліся. І ўсё ж у памяшканні студэнцкага музея Акадэміі мастацтваў была сабрана і паказана даволі ладная калекцыя жывапісных, графічных, скульптурных і дызайнерскіх работ. Яны засведчылі, што вучэльня захоўвае традыцыі рэалістычнай школы. Многія творы сваім зместам і вобразным ладам звернутыя да нацыянальных праблем Беларусі, што па сённяшні дзень застаецца для нас вельмі актуальным.**





**Перад студэнцтвам і журналістамі на выставе выступілі з прамовамі прарэктар Акадэміі Л. Дзягілеў, першыя выпускнікі вучэльні, цяперашнія прызнаныя майстры мастацтваў Л. Шчамялёў, В. Грамыка, І. Стасевіч, выкладчыкі Г. Сокалаў-Кубай, М. Купава, Л. Раманоўскі. Стараннем гэтых рупных педагогаў у вучэльні выкладаецца гісторыя Беларусі, беларусазнаўства, навучальны працэс паслядоўна пераводзіцца на родную мову.**

Л. Л.

*Слоўнікі* *Слоўнікі*

# Беларускі слоўнік за мяжой

Летась упершыню за мяжой, у Злучаных Штатах Амерыкі, выдадзены «Беларуска-англійскі/англа-беларускі слоўнік з усёй фанетыкай» на 6500 слоў. Яго складальнікі — Аляксандр Юшкевіч і Аляксандра Зязюліна. Прафесар Томас Бэрд выступіў з невялікай рэцэнзіяй на гэты слоўнік у апошніх «Запісах» (1992 г.) Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва.

Ён адзначыў, што студэнты і турысты, на якіх найперш разлічаны гэты слоўнік, павінны быць шчыра ўдзячнымі складальнікам і выдавецтву за яго выданне і распаўсюджванне. Нягледзячы на тое што пераклад мастацкай літаратуры з беларускай мовы на англійскую ў Злучаных Штатах узяў пачатак у 1920-ых, а пераклад з англійскай на беларускую мову ў Беларусі вядзе адлік з 1907 г. з «Нашай Нівы», беларуска-англійская лексікаграфія заставалася сур'ёзна запушчанай галіной.

Далей Томас Бэрд спыняецца на падрабязнай характарыстыцы слоўніка. Ён піша, што, каб цалкам задаволіць патрэбы чытача, слоўнік павінен, па-першае, уключаць практычны лексікон, па-другое, падаваць матэрыял зразумела і даступна і, па-трэцяе, змяшчаць дакладны так званы «фанетычны даведнік». Аднак, на думку Т. Бэрда, сумна, што з усіх гэтых магчымасцей пры складанні «Беларуска-англійскага/англа-беларускага слоўніка з усёй фанетыкай» выкарыстана толькі першая. Аўтар артыкула спыняецца на асаблівасцях пабудовы слоўніка, асноўную частку якога складае спіс беларускіх слоў, спіс англійскіх слоў, беларускі алфавіт і «фанетычны даведнік», які не зусім адпавядае ўсім стандартам вымаўлення ў абедзвюх мовах. Ён прыводзіць некалькі такіх прыкладаў. Далей Томас Бэрд робіць крытычную заўвагу адносна выкарыстання двух спосабаў — апостраф або падкрэсліванне, каб пазначыць націск у словах. Ён схіляецца да думкі, што, нават зыходзячы з друкарскіх магчымасцей, лепш выкарыстоўваць апостраф, і Міжнародная Фанетычная Асацыяцыя павінна зрабіць у сувязі з гэтым адпаведныя рэкамендацыі адносна наступных тыражоў.

Напрыканцы свайго артыкула Томас Бэрд піша, што кансультацыі са спецыялістамі ў лінгвістыцы і лексікаграфіі павінны дапамагчы складальнікам пазбегнуць у далейшым гэтых даволі сур'ёзных памылак.

**Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.**

## Тэатр



Апавядаючы пра муніцыпальны тэатр драмы г. Менска «Дзе-Я», можна вызначыць яго, як элітарны, экзатычны, эзатэрычны, і гэтых эпітэтаў яшчэ будзе замала.

Акцёрская суполка, якой кіруе рэжысёр Мікола Трухан, паставіла за мэту вярнуць беларускаму тэатру нацыянальны каларыт, багатую духоўнасць народа. Са спектаклямі тэатра пазнаёміліся гледачы Расіі, Латвіі, Літвы, Украіны, а таксама Канады і Румыніі. «Дзе-Я» здабыў за пяць гадоў свайго існавання шмат прызоў на міжнародных фестывалях.

Пасля дзвюх нядаўніх прэм'ер суполка працуе над новымі спектаклямі паводле п'есы У. Караткевіча «Маці ўрагану», паводле вершаў Купалы, Багдановіча, Гілевіча і фальклорнай спадчыны.

НА ЗДЫМКУ: сцэна з новага дзіцячага спектакля «Найпрыгажэйшая ў краіне».

**Фота В. АЛЯШКЕВІЧА, БЕЛІНФАРМ.**

*Гісторыя ў анекдотах*

*Л. Р. КАЗЛОЎ*

# «З дазволу караля і вялікага князя»

*(Працяг. Пачатак у №№ 1, 2, 4, 5).*

З якой прычыны Жыгімонт I, сын Казіміра Ягайлавіча, стаў называцца «Стары»? Мо таму, што жыў 81 год? Але дзед яго Ягайла пераваліў аж за 83, і ніхто не дадумаўся ў дапаўненне да імя ахрысціць таго яшчэ і «Старым». А можа, што доўга насіў карону і велікакняжацкую мітру? І зноў жа не, бо дзед быў польскім каралём ажно 48 гадоў! А ўнук аддаў «манаршыя шапкі» свайму сыну, якому ледзь споўнілася 10 гадоў. Каралеўскі стаж Жыгімонта-сеньёра налічваў у той момант у два разы менш гадоў у параўнанні з дзедаўскім. Праўда, яму ўжо стукнула шэсцьдзесят тры, і, відаць, у гэтым салідным узросце ён палічыў, што такія цацкі, як карона ці мітра, больш падабаюць яго дзіцяці, Жыгімонту-юніёру. А каб не блытаць, па прапанове каралевы Боны, апошняму надалі яшчэ адно імя — «Аўгуст». Можа, пад уплывам Рэнесансу? Пра ўплыў Боны Сфорцы мы яшчэ паразважаем, але да матэматычных разлікаў больш вяртацца не будзем, прынамсі, на гэтай старонцы, каб не змарыць адных чытачоў і не адбіць ахвоту ў другіх. Скажам толькі па сакрэту, што ў нейкай невядомай яшчэ хроніцы ўпамінаецца мімаходзь, як каралева звярталася да свайго мужа-караля: «Паслухай, стары!» Здаецца, тут усё зразумела. А што тычыцца этычнага боку гэтай формы звароту, то нагадаем, што каралева была маладзей за яго... усяго на 27 гадоў. Не, хопіць, хопіць! Пара вярнуцца на наш гуманістычна-гумарыстычны шлях.

У сярэднявеччы і ў пазнейшыя часы ў многіх каранаваных асоб і іх каранаваных палавін была мода на блазнаў. Не мінуў такога атрыбуту і жыгімонтаўскі двор. Гэты цуд уседазволенасці і трапнасці ў словах, што адрасаваліся налева і направа, а нярэдка і наверх, называўся Станчык. Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць з запалам, што ён паходзіў са Станькава, якое знаходзіцца паблізу Крутагор'я, ці Койданава. Пакінем падобныя біяграфічныя даследаванні да лепшых часоў і паслухаем самога Станчыка.

*Неўзабаве пасля таго, як у каралеўскім замку ўладкавалася маладая каралева Бона, ад якой Жыгімонт Стары спадзяваўся дачакацца нашчадка-Ягайлавіча, у яе гонар было арганізавана вялікае паляванне. Ды яшчэ з нагоды таго, што з Італіі даставілі зграю добрых медэлянаў — гончых сабак. Праўда, вялікім яно называлася больш у дэкаратыўным сэнсе, хаця б таму, што ловы адбываліся ў бліжэйшым гаі пад Кракавам. Але затое з сапраўдным, прывезеным з беларускіх бароў вялізным мядзведзем.*

*Як толькі мядзведзь выбраўся са скрыні, яго тут жа апанавалі медэляны. Гэтае знаёмства для іх скончылася вельмі дрэнна, і раз'юшанага звера стрымаць стала немагчыма. Разагнаўшы паляўнічых і шляхціцаў, што хацелі бліснуць перад каралевай сваёй адвагай, ён панёсся да іх вялікасцей, якія разам са світай сядзелі на конях. Тыя кінуліся наўцёкі. Перапалоханыя коні паскідалі многіх наезднікаў. Звалілася і каралева, з-за чаго тут жа датэрмінова разрадзілася, але з адмоўным вынікам.*

*Станчык таксама перакуліўся разам з канём. Кароль не прамінуў заўважыць, што гэта доказ не шляхетнасці, а дурасці блазна. «Яшчэ большы той дурань,— адгукнуўся Станчык,— хто, трымаючы мядзведзя ў скрыні, выпускае яго назло сабе».*

*Як і іншыя каралі і каралевы, Бона мела фаварытаў. Адным з іх быў біскуп Гамрат. Ён ужо даўно марыў аб высокай пасадзе пры двары і, калі адкрылася вакансія на месцы вялікага каронкага канцлера, звярнуўся да сваёй высокапастаўленай апякунш. Бона звычайна ўплывала ў падобных справах на свайго мужа, і ў ход пайшлі неабходныя словы. Станчык, які знаходзіўся непадалёк, усё гэта чуў. Блазан добра ведаў пра дэкамеронаўскі стыль жыцця біскупа, таму, калі Жыгімонт застаўся адзін, прамовіў:*

*— Хутка мы ўбачым аднаго сакавіцкага медэляна ў пастаці галоўнага лоўчага.*

*Кароль нічога не сказаў. А праз некаторы час быў скліканы сенат, дзе ад імя караля пра якасці яшчэ невядомага прысутным канцлера стаў красамоўна апавядаць маршалак. Упэўнены, што гэта падаюць яго партрэт, Гамрат, ззяючы, узняўся са свайго месца. І тут кароль звярнуўся да яго:*

*— Сядайце, шаноўны біскуп, гаворка не пра вас.*

*У выніку канцлерам стаў Хваенскі.*

*І другі раз Гамрату не пашанцавала стаць вялікім канцлерам. Хаця, агітуючы за сваю кандыдатуру, ён заявіў, што ведае абсалютна пра ўсё, што дзеецца на белым свеце і ў каралеўскім двары, абралі іншага — больш здольнага Самуэля Мацяёўскага. Станчык, канешне, не мог прайсці міма такога здарэння:*

*— Відаць, няма найбольшых падманшчыкаў у нашай дзяржаве, апрача гэтых двух.*

*— Чаму так? — здзівіўся кароль.*

*— Таму што Гамрат прыкідваецца, быццам ведае ўсё, а на самай справе не ведае нічога. І Мацяёўскі, які ўсё знае, прыкідваецца, што нічога не знае.*

*Блазан старога караля, назіраючы, як таму падчас хваробы ставілі п'яўкі, заўважыў: «Вось гэта сапраўдныя прыдворныя і прыяцелі яго вялікасці».*

*(Працяг будзе).*




*Д. ДЖАРВІС:* **Спадчынная аснова арганізма**

***(Умовы фарміравання чалавечага арганізма)***

Вядома, што глебу пад расліны трэба ўгнойваць азотам, фосфарам і каліем. Азот неабходны для росту лісцяў, фосфар — для ўтварэння кветак, калій — для росту сцяблін і карэння. Пры недахопе гэтых элементаў расліна будзе чэзнуць. Такім жа чынам іх недахоп у харчаванні будучай маці адмоўна ўплывае на развіццё арганізма дзіцяці. Як жа павінна яна харчавацца? Хлеб і вырабы з пшаніцы трэба замяніць на вырабы з жыта і кукурузы. Малако, якое можа абрызнуць або адкіпець, замяніць сырам. Замест мяса есці рыбу і іншыя прадукты мора, а таксама печань, ныркі і рубец. Мёд павінен замяніць цукар. Штодзённа трэба есці сырую гародніну (двух відаў) і адно яйка. Салаты з гародніны і лісця ядомых раслін утрымліваюць жыццёва важныя мінеральныя элементы. Яйка ўтрымлівае ўсе элементы, якія неабходны для развіцця арганізма. Карысна есці раз на тыдзень печань. Яе можна замяніць эквівалентнай ежай — ліվернай каўбасой. Мяса птушкі можна есці зрэдку, арэхі часта; замест цытрусавых і іх сокаў лепш ужываць вінаград, яблыкі і журавінны сок. Мёд — выдатны прадукт харчавання. У ім ёсць элементы, неабходныя для ўтварэння клетак крыві. Ён супакойвае і садзейнічае моцнаму сну. Што да ежы, неабходнай для ўнутрывантробнага развіцця плода, то дзве чайныя лыжачкі мёду за кожнай ядой садзейнічаюць утварэнню моцнай нервовай сістэмы дзіцяці. Пры адмоўных адносінах будучай маці да фруктаў, ягад і ядомых раслін, недахоп кіслаты можна папоўніць за кошт чайнай лыжачкі яблычнага воцату на шклянку вады, якую выпіваюць раніцай пасля сну. Гэта здымае пачуццё млоснасці. Пры такіх умовах харчавання можна быць упэўненым, што ў нованароджанага дзіцяці будуць густыя валасы, моцныя пазногці і такая моцная мускулатура, што ва ўзросце 1 тыдня яно зможа падымаць галаву ад падушкі. З часам можна будзе назіраць гарманічнае спалучэнне яго разумовых і фізічных здольнасцей.

*(Працяг будзе).*

## На ўвалях БТ

**17 ЛЮТАГА**

18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».
21.00. Панарама.
23.25. НІКа.

**18 ЛЮТАГА**

16.30. Тэлебачанне — школе. Гісторыя Беларусі. X клас. Развіццё культуры Беларусі ў 20-ыя гады.
17.35. Для дзяцей. Дарожная азбука.
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.45. Сустрэча са Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі Станіславам Шушкевічам. Прамая лінія.
21.00. Панарама.
23.55. НІКа.

**19 ЛЮТАГА**

16.30. Педагагічны экран. Беларуская мова ў Слонімскім сельгасвучылішчы.
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.45. Гаворым па-беларуску.
23.10. НІКа.

**20 ЛЮТАГА**

10.00. Паказвае Гродна. «Граднiца».
14.50. Голас. Літаратурна-мастацкі канал для школьнікаў.
18.30. «Нязменныя сведкі мінулага». Мастацкая калекцыя Паскевічаў у Гомельскім краязнаўчым музеі.
19.20. Г. Гарэлава, вершы М. Багдановіча. «Дзявочыя песні».
21.00. Панарама.
23.15. НІКа.

**21 ЛЮТАГА**

12.05. Роднае слова. Максім Гарэцкі. Хроніка.
12.35. Для школьнікаў. Латарэя аўтографаў.
17.30. «Беларусьфільм» прадстаўляе: «Адраджэнне». Цыкл дакументальных фільмаў студыі «Летапіс». «Як дух змагання Беларусі».
20.00. Панарама.

Рэдактар Эрнэст Ялугін.

Сябры рэдакцыйнай калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека, Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.

Адказны сакратар Віктар Шніп.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.

Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Індэкс 63865.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Наклад 8435 паасобнікаў.
Зак. 259.

Падпісана ў друк 15.02.1993 г. у 15 гадзін.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3